

№ 20 (181)
**Май 2007 года**

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## 24 мая – Дзень славянскага пісьменства і культуры



*Фота Святланы ПРАКОФ'ЕВАЙ*

## «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся»

***7 чэрвеня 2007 года ў г. Крычаве Магілёўскай вобласці ўрачыста распачалася рэспубліканская акцыя для моладзі краіны. З нечай лёгкай рукі яна атрымала ўдалую назву «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся».***

***250 школьнікаў з усіх абласцей Беларусі былі сведкамі таго, як міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Аляксандр Міхайлавіч Радзькоў – ініцыятар гэтай акцыі – заклікаў моладзь дакранууца да гісторыі і культуры малой радзімы, прачытаць малавядомыя, а, магчыма, і ўвогуле яшчэ невядомыя яе старонкі.***

З таго часу ўжо мінуў год, і сёння мы можам з упэўненасцю сказаць, што акцыя «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся» спраўдзілася, ёю ахоплена ўся навучэнская моладзь. Рухавіком акцыі, безумоўна, з'яўляецца Міністэрства адукацыі, якое далучыла да яе такія ўплывовыя на моладзь арганізацыі як Рэспубліканскі цэнтр турызму і краязнаўства, Рэспубліканскі экалагічны цэнтр дзяцей і моладзі, Рэспубліканскі цэнтр тэхнічнай творчасці навучэнцаў, Нацыянальны цэнтр мастацкай творчасці дзяцей і моладзі. Многія міністэрствы таксама далучыліся да гэтай патрэбнай падзеі, разлічанай на тры гады. Аднак ужо зараз можна ўпэўнена сказаць, што працяг яе можна чакаць і праз гэтыя тры гады – таму сведкай зацікаўленасць усіх навучальных устаноў краіны краязнаўчай тэмай, больш глыбокае вывучэнне гісторыка-культурнай спадчыны, уганараванне знакамітых людзей Бацькаўшчыны.

Гэта ўсё патрабуе не абмяжоўваць акцыю пэўным тэрмінам, прымушае думаць аб пашырэнні, паглыбленні зместу і сутнасці яе дзеля разгортвання больш мэтанакіраванага патрыятычнага выхавання моладзі на прыкладах шматграннай дзейнасці і культуры нашага народа ў мінулым.

Аднак, нашыя назіранні за ходам рэспубліканскай акцыі «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся» даюць падставу меркаваць, што гэты ход і асабліва вынікі асобных этапаў, конкурсаў яшчэ не знаходзяць патрэбнага асвятлення ў сродках масавай інфармацыі, па тэлебачанні, радыё. Асабліва крыўдна за тое, што незаўважанымі застаюцца асноўныя «выканаўцы» акцыі, тыя, на каго яна скіравана-разлічана – навучэнцы школак. Гэта заўважана намі, бо грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры» і «Краязнаўчая газета» трымаюць цесныя творчыя сувязі з Рэспубліканскім цэнтрам турызму і краязнаўства, прымаюць удзел у яго мерапрыемствах, прысвечаных акцыі, публікуюць у газеце асноўныя дакументы, метадычныя распрацоўкі, матэрыялы акцыі і робяць гэта на рэгулярнай аснове.

Улічваючы важнасць гэтай тэмы для выхавання патрыётаў Радзімы, рэдкалегія «Краязнаўчай газеты» прыняла рашэнне адкрыць на яе старонках (на першай паласе) пастаянную рубрыку з назваю акцыі «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся». Спадзяемся на падтрымку нашай прапановы Міністэрствам адукацыі, Цэнтрам турызму і краязнаўства, іншымі заснавальнікамі. Галоўны ж нашы спадзяванні на разуменне і спагаду да спробы грунтоўнай фіксацыі падзей, звязаных з акцыяй, на непасрэдных выканаўцаў – школы і іх калектывы – як настаўнікаў, так і вучняў. Сувязь газета–школа (і наадварот) павінна стаць плёнам, у першую чаргу, для аператыўнай інфармаванасці ўсіх зацікаўленых новымі метадамі і формамі работы школ розных рэгіёнаў у гэтым накірунку па дасягненні пастаўленай акцыяй мэты – па-сапраўднаму ганарыцца тым, што жывеш у непаўторнай краіне свету – Рэспубліцы Беларусь.

«Краязнаўчая газета» чакае слова настаўнікаў – кіраўнікоў, і асабліва непасрэдных удзельнікаў – навучэнцаў. Да сустрэч на старонках «КГ»!

***Уладзімір ГІЛЕП,***
***галоўны рэдактар «Краязнаўчай газеты»***

**Да ведама.** *Каардынатарам праекта з боку «КГ» з'яўляецца літсупрацоўнік выдання Ігар Віктаравіч Грэчка.*
*Тэл.: (017) 334-61-62; (017) 283-28-26.*

## У нумары:



## Нам пра нас

***Пятро РУСАЎ, археолаг, выкладчык, падпісчык «КГ» з першага нумара:***

*– Я ваш зацікаўлены прыхільнік і чытач. Вельмі ўдзячны газеце за матэрыялы, прысвечаныя 125-м угодкам Янкі Купалы і Якуба Коласа. Я заўсёды выкарыстоўваю іх у сваіх лекцыях.*

*Фактычна ўсё, змешчанае ў Вашай газеце, – як крыніца, якая дапамагае не толькі выйграць і выкарыстаць час у кароткіх сутках, але і пазбавіцца клопату ў пошуку неабходнай літаратуры. Усё – у адным месцы, у адной публікацыі.*

*Значную і карысную працу рэдакцыі яшчэ адзначаць нашчадкі!*



## Бярэзінскія бібліятэкі – Янку Купалу і Якубу Коласу

Сёлетні год у культурным жыцці нашай краіны праходзіць пад знакам 125-годдзя з дня нараджэння двух славутых песняроў беларускага народа Янкі Купалы і Якуба Коласа. З нагоды гэтай юбілейнай даты ў бібліятэках Бярэзінскага раёна пройдзе шэраг культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў цыкла «Пад знакам Купалы і Коласа» з шырокім правядзеннем акцый «Беларускага не любіць – беларусам не быць!», «Зробім класіку бестселерам!», «Калі без Купалы і Коласа, то якія мы беларусы?», месячніка беларускай літаратуры, беларускіх чацверкаў «Чытайце Купалу і Коласа», «Новае прачытанне Купалы і Коласа», дзён роднай мовы і літаратуры «Родная мова – душа народа», «Беларусам нельга звацца, калі роднага слова цурацца», літаратурных і літаратурна-музычных кампазіцый, вечарын, літаратурных, паэтычных, інфармацыйных і фальклорных гадзін «Мелодыю мовы славянскай я чую...», «Паэтычнае слова песняроў Беларусі», «Песняры беларускага народа», «Навекі зрадніўся з песняй народа сам творца песень – Янка Купала», «Пясняр народных дум», «Гордасць і слава беларускай літаратуры», «Коласа слыннае слова», «Беларускай паэзіі волат» і інш.

***(Заканчэнне на стар. 2)***








Такіх гарадкоў у Беларусі, як Глыбокае, па пальцах не пералічыш – іх шмат! Але мой горад, акальцаваны транзітнымі шляхамі на Расію і Прыбалтыку, спавіты блакітам азёр і захінёны зялёнай коўдрай лясоў, яшчэ і нашчадак багатай гісторыі, якой я так цікаўлюся. З юначай настойлівасцю я цярпліва шукаю ключы да дзвярэй у мінулае майго горада.

У Глыбокім кожны камень дыхае гісторыяй. Захавалася шмат мемарыяльных знакаў. Горад багаты помнікамі архітэктуры. Адным з іх з'яўляецца Ільінская капліца на мясцовых могілках. Першы ўспамін аб ёй знайшла ў хроніцы 1861 года і інвентары 1862 года. Узвялі яе кармеліты. Кожную пятніцу тут адбываліся набажэнствы. Галоўны фасад капліцы завершаны трохвугольным франтонам з вежай-званіцай і каваным ажурным крыжам. Зала храма перакрыта пласкай столлю. Дзве пары слупоў выдзяляюць у ёй алтарную частку і галерэю для хора пры ўваходзе. Раней капліца мела тры алтары, а таксама выразную выяву Хрыста. Сцены былі распісаныя. На жаль, час "з'еў" малюнкі. Пры аднаўленні капліцы ў 1930 годзе аднавілі толькі дах, а ўсе фрагменты схавалі пад свежай фарбай. Злева ёсць невялічкая таблічка з лацінскім надпісам: «Братам у Хрысце кармелітам босым, якія тут пачалі адраджэнне з 1642 года, гэты манумент. Брат Барталамей ад св. Уладзіслава пабудаваў у годзе 1861». Капліцу напаткаў лёс кляштара кармелітаў – яе канфіскавалі і вярнулі толькі ў 1919 годзе ў поўразбураным стане.

На тэрыторыі могілак ёсць два ўзгоркі, раздзеленыя сухім ровам. На левым стаіць Ільінская капліца, а на правым – старажытная калона ў памяць Канстытуцыі 3 мая 1791 года (так яно і ёсць насамрэч, іншыя варыянты – легенды і фантастычныя дадумкі; другая аналагічная калона стаіць у м. Лявонпаль Мёрскага раёна. – **Рэд.**). Калону называюць і Напалеонаўскай, бо была пабудавана пасля паходу Напалеона на Маскву ў 1812 годзе. Яна з чырвонай цэглы. Вышыня 9 метраў. Падмурак уяўляе сабой вялізныя чатырохвугольнікі з паглыбленнямі для надпісаў. Ёсць легенда, што калона была ўзведзена на месцы дуэлі двух братоў з-за каханай дзяўчыны.

Глыбоцкія старажылы сцвярджаюць, што раней пад Глыбокім цягнуліся падземныя хады, якія злучалі капліцу з царквой, касцёлам Пятра і Паўла ў Беразвеччы і манастыром. Цяпер яны засыпаліся, але кажуць, што там можна было праехаць на тройцы коней, стоячы на павозцы ў поўны рост.

Я вельмі хачу ўбачыць падземны ход, трапіць у капліцу, але на яе дзвярах – замок. А таму я шукаю ключ ад дзвярэй, якія адкрылі б таямніцы мінулага.

*Анастасія ЖУРАЎСКАЯ,*
*сябра журналісцкапаэтычнага клуба*
*«Жамчужынкі», г. Глыбокае*

## На тым тыдні...

● **15 красавіка** ў філіяле Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры «Гасцёўня Галубка» прайшло **адкрыццё выставы, прысвечанай 125-гадоваму юбілею стваральніка беларускага тэатра.** На пачатку мерапрыемства быў паказаны дакументальны фільм, створаны на кінастудыі «Беларусьфільм» напярэдадні 100-гадовага юбілея Уладзіслава Галубка. Пасля ў выставачнай зале дырэктар музея Зінаіда Лявонаўна Кучар выказала падзяку ўсім, хто далучыўся да стварэння выставы. Выступілі таксама, напрыклад, прафесар, доктар мастацтвазнаўства Анатоль Вікенцьевіч Сабалеўскі, які расказаў аб ўшанаванні ў нашай краіне памяці пра вядомага акцёра, а таксама паведаміў, што ідзе, пакуль толькі размова, аб выданні творчай спадчыны Галубка. Пляменніца першага народнага артыста Беларусі Ала Уладзіміраўна Рэут выказала слушную прапанову-спадяяванне аб наданні адной са сталічных вуліц імя Уладзіслава Галубка. Выступіў і першы дырэктар музея Аляксандр Гаўрылавіч Міхаленя.

На выставе сабраны унікальныя экспанаты. Сярод іх фотадымкі са спектакляў «Пан Сурынта», «Плытагоны»; выданні драматычных твораў, напрыклад, «Суд» (камедыя ў 1-м акце, што пабачыла свет у Дзяржаўным выдавецтве Беларусі ў Мінску ў 1925 годзе). Ёсць тут і нумары «Нашай нівы» за 1908 год з вершамі Галубка («Забытая хатка», «Чакай, браце!..»), і карціны, намаляваныя акцёрам («Лясны ручэй», «На возеры Мядзел»).

● Урачыстая **вечарына, прысвечаная 45-годдзю радыёстанцыі «Беларусь»,** адбылася 18 красавіка ў Доме Дружбы Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.

*Рэдакцыя «Краязнаўчай газеты» шчыра віншуе ўвесь калектыў радыёстанцыі і жадае творчага натхнення, поспехаў і плёну ў працы.*

● У рамках агульнаеўрапейскай акцыі «**Ноч музеяў**» **19 мая** ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь прайшло адметнае мерапрыемства. Яно складалася з **калажа оперы «Чароўная флейта»** В.-А. Моцарта (у выкананні студэнтаў Беларускай акадэміі музыкі, удзельнікаў міжнароднага праекта «Маладыя галасы» (Беларусь–Кітай)) і канцэрта старадаўняй музыкі (у выкананні «Мінскіх камерных салістаў» пад кіраўніцтвам Дз. Зубава).

● **19–20 мая** ў старажытнай Лідзе прайшоў рыцарскі турнір «**Меч Лідскага замка**», які арганізавалі мясцовы райвыканкам, мінская унія «Меч і крумкач», Беларускі саюз музычных дзеячаў. У праграме былі пешы і конны турніры, бугурты і групавыя спаборніцтвы, інсцэніроўка бітваў з маштабным прымяненнем артылерыі. Не абышоўся фэст без сярэднявечных рамёстваў, забаўляльных мерапрыемстваў, выступлення гуртоў, якія выконваюць медыявальную (сярэднявечную) музыку.

# Бярэзінскія бібліятэкі — Янку Купалу і Якубу Коласу

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Для маленькіх наведвальнікаў бібліятэк плануецца правесці дні казак «Казка хлусіць, а чалавека думаць мусіць», «Казачная навука для сына і ўнука», ляльчныя прадстаўленні па казках Я. Коласа «Мужык і мядзведзь», «Два зайцы», «Зайчыкава хатка», «Як курачка пеўніка ратавала». Для правядзення бібліятэчных мерапрыемстваў у аддзеле маркетынгу Бярэзінскай ЦБС сабраны фонд сцэнарных мерапрыемстваў купалаўскай і коласаўскай тэматыкі. Запланавана экскурсія бібліятэчных работнікаў у купалаўскі музей «Акопы» на Лагойшчыне «Тут дух Купалы быў і будзе!» З мэтай развіцця і падтрымкі творчай моладзі ў рамках юбілейнай даты прадстаўлена літаратурная творчасць землякоў Іны Амельчанка, Сямёна Бабровіча, Дзіны Піскун, Ірыны Рыбаковай на VII абласны злёт маладых паэтаў Міншчыны «Слова Купалы да творчасці кліча».

На сённяшні дзень для большага поўнага раскрыцця жыццёвага і творчага шляху нацыянальных класікаў у кожнай бібліятэцы раёна аформлены кніжныя выставы, тэматычныя паліцы і падборкі літаратуры «Гонар і слава беларускага народа», «Невычэрпная крыніца творчага натхнення», «Янка Купала і Якуб Колас – песняры беларускага народа», «Паэты долі народнай», «Сцежкамі паэтаў» і інш. Актыўную работу бібліятэкі разгарнулі і ў правядзенні масавых мерапрыемстваў па прапагандзе творчасці беларускіх песняроў Я. Купалы і Я. Коласа з нагоды іх 125-гадовага юбілею. Асабліва трэба адзначыць работу Каменаборскай сельскай бібліятэкі, дзе бібліятэкарам Тацянай Дзмітрыеўнай Талочынай арганізаваны сярод наведвальнікаў бібліятэкі – навучэнцаў мясцовай школы Купалаўскія і Коласаўскія чытанні. Па іх выніках ужо праведзены конкурс эрудытаў «Казкі дзядулі Коласа» для вучняў малодшых і сярэдніх класаў. У ходзе конкурсу дзецям зачытвалі ўрыўкі з казак, і ім трэба было адгадаць, каму з герояў і якой казцы належыць дадзены змест. Дзеці пазнавалі казку па яе пачатку, па прыказцы, самі чыталі ўрыўкі твораў. У ходзе гульняў «Парваны ланцужок», «Чароўны кufэрак» дзеткі паказвалі інсцэніроўкі казак Я. Коласа. Для вучняў 7–8 класаў быў арганізаваны КВЗ «Паэты – Прометэі». Дзве каманды «Каласавічкі» і «Купалінавічкі» віталі гледачоў і журы, расказвалі факты з біяграфій Коласа і Купалы, разгадвалі крыжаванкі і рэбусы, адказвалі на пытанні віктарыны па жыцці і творчасці народных паэтаў, дэкламавалі вершы. Для старшакласнікаў быў праведзены інтэлектуальны паядынак «Кніжная палата». Каманды па чарзе выцягвалі карткі з заданнем ці пытаннем па творчасці класікаў. Самыя актыўныя ўдзельнікі былі ўзнагароджаны прызамі і самаробнымі медалямі.

Заключным этапам па ўшанаванні юбілейных дат нацыянальных пісьменнікаў стане чытацкі раённы форум-бенефіс «На шырокі кніжны прастор сцяжынамі Купалы і Коласа» і падвядзенне вынікаў раённага агляду-конкурсу на лепшую пастаноўку работы «Бярэзінскія бібліятэкі – Янку Купалу і Якубу Коласу», якія пройдуць на базе цэнтральнай бібліятэкі горада Беразіно.

*Наталля МАЕЎСКАЯ,*
*метадыст Бярэзінскай цэнтральнай бібліятэкі*




*На фотаздымку Т. Талочынай і Н. Маеўскай: бібліятэкар Каменаборскай сельскай бібліятэкі Т.Д. Талочына пад час мерапрыемстваў, прысвечаных Я.Купалу і Я.Коласу*





*Зацвярджаю*
*Намеснік міністра адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*
*Т.М. Кавалёва*
*24 лістапада 2006 г.*

# Умовы правядзення конкурсаў

## у рамках рэспубліканскай акцыі навучэнскай моладзі «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся»

### 1. Агульныя палажэнні

1.1. У адпаведнасці з Інструкцыяй аб правядзенні рэспубліканскай акцыі навучэнскай моладзі «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся» (далей – Акцыя), зацверджанай пастановай Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 27 студзеня 2006 года № 4 і планам асноўных мерапрыемстваў, зацверджаным 25 мая 2006 года № И-12-01-09/79 намеснікам міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь, старшынёй рэспубліканскага арганізацыйнага савета па правядзенні Акцыі Т.М. Кавалёвай, праводзяцца:

• конкурс музеяў устаноў адукацыі «Гісторыка-культурныя каштоўнасці рэгіёну ў змесце дзейнасці сучаснага музея ўстановы адукацыі» (код 05);

• конкурс на лепшы праект краязнаўчага маршруту «Мой край» (код 06);

• конкурс даследчых прац «Пазнай сваю Радзіму» (код 07);

• конкурс па складанні карт-схем малой радзімы з абазначэннем гістарычных, культурных, прыродных славутасцяў і выдатных мясцін (код 08).

1.2. Заснавальнікам конкурсаў Акцыі з'яўляецца Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Конкурсы Акцыі праводзяцца пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь, Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь, Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

1.3. Мэты і задачы конкурсаў Акцыі:

• усебаковае вывучэнне гісторыі і прыроды сваёй малой радзімы, далучэнне дзяцей і навучэнскай моладзі да традыцый і помнікаў рэгіянальнай культуры;

• выхаванне патрыятызму, грамадзянскай адказнасці за будучыню гісторыка-культурнай і прыроднай спадчыны роднага краю сродкамі краязнаўства, музейнай дзейнасці і турызму.

1.4. Удзельнікі конкурсу – вучэбныя калектывы, турысцка-краязнаўчыя гурткі і клубы, іншыя дзіцяча-юнацкія аб'яднанні, актывы музеяў устаноў адукацыі, асобныя навучэнцы.

### 2. Арганізацыя правядзення конкурсаў Акцыі

2.1. Арганізатарам конкурсаў Акцыі з'яўляецца Установа адукацыі «Рэспубліканскі цэнтр турызму і краязнаўства навучэнскай моладзі», 220131, г. Мінск, вул. Лук'яновіча, 18. Тэлефон: 288-42-16, 237-18-75, сайт www.rctkum.com

2.2. Конкурсы Акцыі праводзяцца ў чатыры этапы:

2.2.1. I этап праводзіцца для дзяцей і навучэнскай моладзі на ўзроўні пачатковай, базавай, сярэдняй, прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай установы адукацыі, установы пазашкольнага выхавання і навучання, за выключэннем конкурсу музеяў (код 05). Тэрмін правядзення: снежань 2006 года – кастрычнік 2007 года.

2.2.2. II этап (раённы) праводзіцца на ўзроўні раёна. Тэрмін правядзення: лістапад 2007 года.

2.2.3. III этап (абласны, Мінскі гарадскі) праводзіцца на ўзроўні вобласці і горада Мінска з удзелам устаноў адукацыі, якія забяспечваюць атрыманне прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, а таксама ўстаноў адукацыі абласнога, Мінскага гарадскога і рэспубліканскага падпарадкавання. Тэрмін правядзення: снежань 2007 года.

2.2.4. IV этап (рэспубліканскі, заключны). У кожным конкурсе Акцыі на рэспубліканскім (заключным) этапе разглядаюцца не больш за 10 прац (справаздач, даследчых прац, праектаў маршрутаў, карт-схем) ад вобласці і г. Мінска, а таксама ўсе абагульненыя (раённыя, абласныя) карты-схемы (для конкурсу па складанні карт-схем малой радзімы).

Тэрмін правядзення: студзень 2008 года. Для конкурсу па складанні карт-схем малой радзімы (код 08) тэрмін правядзення: студзень–красавік 2008 года.

### 3. Асаблівасці правядзення конкурсаў Акцыі

3.1. Конкурс музеяў устаноў адукацыі «Гісторыка-культурныя каштоўнасці рэгіёну ў змесце дзейнасці сучаснага музея ўстановы адукацыі» (код 05).

3.1.1. На конкурс прадстаўляюцца справаздачы аб выніках даследчай і культурна-асветніцкай дзейнасці музеяў устаноў адукацыі за перыяд 2006–2007 гады, зацверджаныя дырэктарам установы адукацыі.

3.1.2. Справаздача змяшчае ў сабе характарыстыку музея ўстановы адукацыі, зацверджаную дзяржаўным музеем альбо раённым (гарадскім) аддзелам (упраўленнем) культуры, і апісанне экспазіцыйнай, фондавай і навукова-асветніцкай дзейнасці музея ўстановы адукацыі за перыяд 2006–2007 гады.

3.1.3. Вынікі даследаванняў малавывучаных старонак гісторыі свайго краю, малавядомых краязнаўчых аб'ектаў і прапаганды гісторыка-культурных каштоўнасцяў свайго рэгіёну, якія праводзяцца ў рамках Акцыі, адлюстроўваюцца ў афармленні выставы, раздзелаў музейнай экспазіцыі, у матэрыялах вучнёўскай канферэнцыі.

3.1.4. У справаздачы пазначаюцца крыніцы інфармацыі – праведзеныя экспедыцыі, успаміны (інфармацыя) мясцовых жыхароў, даследаваныя музейныя і архіўныя дакументы, выкарыстаная літаратура і іншыя.

3.2. Конкурс на лепшы праект краязнаўчага маршрута «Мой край» (код 06).

3.2.1. На конкурс «Мой край» прадстаўляецца намаляваная тапаграфічная схема маршрута па родным краі з тэкставай справаздачай аб даследаваных краязнаўчых аб'ектах і дапаможнымі фотаздымкамі, малюнкамі.

3.2.2. Справаздача змяшчае ў сабе агульную фізіка-геаграфічную характарыстыку маршруту з тэхнічнымі паказчыкамі (працягласць маршруту і тэрміны праходжання яго ўчасткаў, дарожная інфраструктура, наяўнасць рэк, вадаёмаў, населеных пунктаў), апісанне яго гісторыка-культурных, прыродных і вытворчых аб'ектаў, а таксама магчымасцяў правядзення на маршруце сустрэч з цікавымі людзьмі альбо ўдзелу ў рэгіянальных культурных і грамадска-карысных акцыях (у залежнасці ад пастаўленых мэт паходу ці экскурсіі і прывязкі да календара святочных і памятных дат):

• сустрэчы са славутымі землякамі і мясцовымі жыхарамі, носьбітамі рэгіянальнай традыцыі, на месцы іх пражывання;

• удзел у традыцыйных рэгіянальных святах альбо ў культурных мерапрыемствах, прымеркаваных да ўгодкаў мясцовай гістарычнай падзеі ці памяці славутага ўраджэнца краю;

• правядзенне талакі па добраўпарадкаванні мемарыяльных мясцін і занядбаных помнікаў.

3.2.3. Вынікі конкурсу падводзяцца ў дзвюх намінацыях: «Паход» і «Экскурсія». Удзел у конкурсе па намінацыях і афармленне справаздач павінны ўлічваць спецыфіку плошчы ахопу тэрыторыі, тэхнічных паказчыкаў, пазнавальных і даследчых магчымасцяў маршруту. Паход – падарожжа з актыўнымі спосабамі перамяшчэння (пешшу, на лыжах, веласіпедзе, вёславых суднах). Экскурсія – наведванне славутасцяў і выдатных мясцін, музеяў у вучэбных альбо культурна-асветніцкіх мэтах пад кіраўніцтвам экскурсавода. Экскурсія можа ўключаць пешую, веласіпедную, водную, чыгуначную, аўтамабільную формы правядзення.

3.2.4. На рэспубліканскім этапе конкурсу па кожнай намінацыі разглядаецца не больш аднаго праекта маршруту ад даследчага калектыву – удзельніка конкурсу.

3.3. Конкурс даследчых прац «Пазнай сваю Радзіму» (код 07).

3.3.1. На конкурс «Пазнай сваю Радзіму» прадстаўляюцца матэрыялы аб даследаваных аб'ектах і з'явах эканамічнай культуры рэгіёну (вёскі, мястэчка, горада, часткі раёна ці горада), аб характары сучасных гаспадарчых заняткаў насельніцтва (сельскагаспадарчыя і прамысловыя прадпрыемствы, саматужная вытворчасць, сфера абслугоўвання) з адлюстраваннем мясцовых рамесна-прамысловых і вытворчых традыцый розных гістарычных эпох.

3.3.2. Шляхам правядзення даследчай экспедыцыі альбо працы ў музеі ці архіве выяўляюцца і вывучаюцца:

- прылады сялянскай і рамесніцкай працы, звязаныя з апрацоўкай дрэва, металу, скуры, іншых матэрыялаў, вырабам і выкарыстаннем транспартных сродкаў (аўтамабілі, паравозы, водныя судны, чаўны, колы, сані), прадметаў культуры і побыту, тканін, гатаваннем ежы і іншыя;

- гаспадарчыя, рамесніцкія і вытворчыя аб'екты – свіраны, вяндлярні, ляdоўні, лямусы, стайні, корчмы (кавярні), бровары, кузьні, плавільні, цагельні, млыны, паперні, гуты, ставы і водныя каналы, воданапорныя вежы, паштовыя станцыі, чыгуначныя шляхі і станцыі, аб'екты садова-агародніцкай гаспадаркі, аб'екты горадабудаўніцтва і помнікі традыцыйнага дойлідства (даследуецца планіроўка гістарычных кварталаў і цэнтра горада, мястэчка, вёскі, асобныя будынкі).

3.3.3. Удзельнікі конкурсу даследуюць развіццё эканамічнай культуры рэгіёну пад уплывам:

- прыроднага асяроддзя (кліматычныя ўмовы і наяўнасць неабходнай сыравіны, экалагічныя праекты і аварыі, якія змяняюць прыроднае асяроддзе, агульная эстэтыка ландшафту);

- культурна-этнаграфічных асаблівасцей (рэлігійныя і побытавыя традыцыі);

- дэмаграфічных працэсаў (колькасны і сацыяльны склад, міграцыі насельніцтва, узаемаўплывы розных культур);

- спецыфікі навукова-тэхнічнага развіцця рэгіёну і гандлёвых стасункаў.

3.3.4. У выпадку, калі аб'екты эканамічнай культуры ўваходзілі ў склад сядзібава-паркавых ці палацавых ансамбляў і гаспадарак, альбо аказаліся страчанымі, праводзіцца комплекснае даследаванне і рэканструкцыя (аднаўленне) страчанай рамесна-вытворчай і мастацкай традыцыі рэгіёну. Даследуюцца традыцыі кавальства (крыжы, брамы, агароджы, дзвярныя ручкі, замкі, іншыя вырабы), дойлідства (стыль і мастацкае аздабленне асобных будынкаў), разьбы па камені і дрэве, жывапісу, ткацтва, садаводства і іншых відаў дэкаратыўна-прыкладной і гаспадарчай дзейнасці. Даследуюцца таксама іншыя аб'екты духоўнай і матэрыяльнай культуры рэгіёну – археалагічныя помнікі, могілкі, храмы, старыя прысады і дарогі, гістарычныя будынкі ўстаноў культуры і адукацыі, помнікі культуры розных этнічных груп – беларусаў, яўрэяў, татараў, цыган, палякаў, рускіх (старaабрадцаў), немцаў, балтаў.

Інфармацыя аб страчаных аб'ектах гаспадарчага жыцця рэгіёну, забытых промыслах і рамёствах, таленавітых майстрах дапаўняецца ўспамінамі мясцовых жыхароў, існуючымі легендамі і паданнямі.

3.3.5. Дадаткова прапануецца даследаваць:

- мясцовыя традыцыі прыродакарыстання;

- утылітарна-практычныя, эстэтычныя і сімволіка-абрадавыя функцыі рамесных і вытворчых вырабаў;

- спецыфіку форм уласнасці і гаспадарання;

- сацыяльна-эканамічныя, палітычныя, прыродна-экалагічныя і тэхнагенныя фактары ўзнікнення, росквіту і заняпаду асобных форм і відаў вытворчасці (мануфактур, майстэрняў, сельскагаспадарчых і прамысловых прадпрыемстваў), сферы гандлёва-фінансавых і побытавых паслуг (паслугі карчмы, цырульні, лазьні, крамы, майстэрні па рамонце, крэдытнай установы);

- сучасны стан эканомікі рэгіёну, перспектывы яго далейшага развіцця з улікам мінулых поліэтнічных культурных традыцый, шматвяковых калектыўных навыкаў і вытворчых ведаў.

3.4. Конкурс па складанні карт-схем малой радзімы з абазначэннем гістарычных, культурных і прыродных славутасцяў і выдатных мясцін (код 08).

3.4.1. На конкурс па складанні карт-схем малой радзімы прадастаўляюцца даследчыя матэрыялы з вынікамі вывучэння найбольш значных з'яў і аб'ектаў рэгіянальнай гісторыі, культуры, эканомікі і прыроды з абазначэннем іх на карце-схеме сваёй мясцовасці – населенага пункта (вёскі, горада, часткі горада), сельскага Савета, раёна, часткі раёна, вобласці.

3.4.2. Карта-схема – спрошчана-абагульненае адлюстраванне мясцовасці, якая павінна быць выкарыстана для перадачы інфармацыі аб прыродна-антрапагенных, прыродных, культурна-гістарычных славутасцях і выдатных мясцінах малой радзімы, роднага краю.

3.4.3. Пры складанні карты-схемы выкарыстоўваюцца ўмоўныя знакі аб'ектаў агульнагеаграфічнага (населеныя пункты, дарогі, рэкі і вадаёмы – сістэма прывязкі рэгіянальных помнікаў як аб'ектаў даследавання) і спецыялізаванага характару (аб'екты і з'явы гісторыі, культуры, эканомікі і прыроды), якія маюць неабходнае тлумачэнне і змяшчаюцца ў легендзе карты-схемы. Умоўныя знакі павінны творча і па-мастацку адлюстроўваць прызначэнне і абрысы аб'екта.

3.4.4. Удзельнікамі конкурсу даследуюцца і пашпартызуюцца не больш як 30 аб'ектаў (славутасцяў і выдатных мясцін) рэгіёну. Пашпарт кожнага аб'екта (з'явы) павінен мець ацэнку сучаснага стану і асноўныя культурна-гістарычныя, экалагічныя, архітэктурна-будаўнічыя і іншыя мастацкія характарыстыкі, складаецца адвольна і ў аб'ёме не больш адной старонкі фармату А4 друкаванага тэксту. Да пашпарту аб'екта прыкладаюцца малюнкі (графіка, акварэль, гуаш, аловак) фарматам А5 і фатаграфіі фарматам 10x15.

3.4.5. На карце-схеме асобным умоўным значком абазначаецца ўстанова адукацыі як аб'ект даследавання, і складаецца яе пашпарт.

3.4.6. На II (раённым) і III (абласным) этапах конкурсу рэгіянальным саветам Акцыі афармляецца абагульненая (раённая, абласная) карта-схема, на якую наносяцца ўмоўныя знакі выбраных 30 найбольш значных аб'ектаў гісторыі, культуры і прыроды для рэгіёну (раёна, вобласці) і 3 лепшыя ўстановы адукацыі па выніках удзелу ў конкурсе на II і III этапах.

### 4. Агульныя патрабаванні да афармлення прац, якія прадастаўляюцца на конкурсы Акцыі

4.1. Працы (справаздачы), якія прадастаўляюцца на конкурсы Акцыі (05, 06, 07, 08), абавязкова маюць тытульную старонку (з пазначэннем населенага пункта, раёна/горада, вобласці, установы адукацыі, назвы працы, намінацыі) і суправаджаюцца інфармацыяй аб аўтарах (прозвішча, імя, узрост, клас, група), аб кіраўніку/кіраўніках (прозвішча, імя, імя па бацьку, пасада), аб установе адукацыі з пазначэннем адраса і нумара кантактнага тэлефона.

4.2. Аб'ём конкурснай працы (справаздачы) павінен мець не больш за 40 старонак друкаванага тэксту фармату А4. Праца (справаздача) павінна мець арыгінальную назву адпаведна зместу і тэме праведзенай работы. Да працы (справаздачы) прыкладаюцца фотаздымкі і іншыя выявы аб'ектаў, дапаможныя тапаграфічныя планы і схемы мясцовасці.

4.3. Працы (справаздачы), якія прадастаўляюцца для ўдзелу ў III і IV этапах конкурсаў Акцыі, падаюцца ў друкаваным выглядзе і на электронным носьбіце.

### 5. Падвядзенне вынікаў і ўзнагароджанне пераможцаў

5.1. Адзнака прац (справаздач), якія ўдзельнічаюць у I, II, III этапах конкурсаў Акцыі, ажыццяўляецца журы адпаведнага этапа. Рэгіянальным (раённым, абласным) саветам Акцыі разглядаецца пытанне заахвочвання пераможцаў этапа.

5.2. Адзнака прац (справаздач), якія прадастаўляюцца на рэспубліканскі этап конкурсаў Акцыі, праводзіцца журы, сфармаваным рэспубліканскім саветам Акцыі. Рэспубліканскі савет Акцыі разглядае пытанне заахвочвання пераможцаў рэспубліканскага этапа.

5.3. Аўтары лепшых прац (справаздач) альбо прадстаўнікі калектыўных прац-пераможцаў конкурсаў Акцыі, вызначаных журы рэспубліканскага этапа, стануць удзельнікамі выніковага злёту Акцыі ў Нацыянальным дзіцячым аздараўленчым лагеры «Зубраня» ў маі 2008 года. Лепшыя працы (справаздачы) дэманструюцца на рэспубліканскіх выставах, арганізаваных заснавальнікамі Акцыі.

# 2007 Год Слова Купалы і Коласа

У названай ужо брашуры Д. Дарашэнкі «Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне» (1908) наконт паэзіі Я. Купалы было напісана: «Гэта смелы прызыў да лепшага жыцця, да здабыцця яго. Купала не стыдуецца сказаць усёй сумнай праўды пра жыццё – нядолю роднага народа; малюнкі ў творах гэтага песняра яскравыя, ясныя; форма лёгкая, вольная... Паэзія Янкі Купалы – гэта голас забітага, скрыўджанага беларускага народа аб сваім адраджэнні, аб змаганні за волю, за лепшае жыццё... І з вераю ў свой край кліча пясняр маладое беларускае грамадзянства будзіць заснуўшых і скрыўджаных, кліча будаваць айчыну, набліжаць панаванне праўды і шчасця...»

Хто з жывых не хацеў бы пачуць такія высокія словы?!

### *Працяг вучобы і ўзыходжання на паэтычны Алімп*

1909 год. *Ад І. Свяніцкага са Львова на адрас «Нашай Нівы» на пачатку студзеня прыходзіць ліст, у якім аўтар віншуе газету з працягам выдання і просіць перадаць прывітанне «песнярам народнай долі» – Янку Купалу і Якубу Коласу – і жадае ім «дачакацца шчаслівага часу, калі іхняя песня адгукнецца вясёлым рэхам па ўсёй зямлі беларускай і пакліча адроджаны народ у шэрагі працаўнікоў агульначалавечай культуры».*

Сапраўды, рэха паэзіі Я. Купалы чуецца ўсё далей за межамі Беларусі. Асобныя яго вершы, напрыклад, ужо сталі вядомыя ў Чэхіі: вучоны-славіст, пісьменнік А. Чэрны (1864–1952) у студзені ў газеце «Час» змяшчае артыкул «З Беларусі», дзе, у прыватнасці, дае высокую ацэнку такім Купалавым творам, як «Ворагам Беларушчыны», «Ужо днее», перакладае іх на родную мову, а іхняга аўтара называе адным з «беларускіх будзіцеляў, якія стаяць на вышыні грамадскіх ідэй сучаснасці». Прызнанне і ўхвалу іх, гэтых вершаў, можна добра зразумець: чэшская мова і літаратура таксама немалы час зведвалі цяжкасці. З-за засілля нямецкай, таму свядомым чэхам, навукоўцам і пісьменнікам гэтак жа, як і Купалу ды Коласу, прыходзілася станавіцца на ногі ў цяжкіх умовах, пераадольваючы самыя розныя шавіністычныя нападкі і глумлівыя папрокі ў нацыяналізме. Зімой таго года Купалам зацікавіўся літоўскі пісьменнік Л. Гіра (1886–1946); апошні, ведаючы беларускую мову, крыху пазней (літоўскае выданне «Viltis», 1910) напіша, што ўжо ў першую сустрэчу ён пачуў нямала беларускіх вершаў, якія «былі сапраўднымі перламі паэзіі». А менавіта: «Купала – гэта яркае свяціла на беларускім Парнасе, гэта сапраўды таленавіты пясняр. Так, як ён, не пісаў і не піша ў беларусаў больш ніхто», «Лірык ён незвычайна далікатны і глыбокі. Сапраўдны дэмакрат», «У іншых творах яго паўстае мінулае Беларусі і Літвы, гавораць далёкія курганы, і ў тых вершах ён, нібы літоўскі паэт, такі блізкі і зразумелы для літоўскай душы» («Беларуская літаратура XIX – пачатку XX стст. Хрэстаматыя. Мн., 1978. С. 247). У сакавіку вершы «Я бачыў» і «А хто там ідзе?» друкуюцца ў Кіеве ў газеце «Рада».

# *Янка Купала* і беларуская эміграцыя

У сваёй кнізе «Беларуская эміграцыя» (Мн., 1991. С. 14) Барыс Сачанка згадаў адзін выпадак, пра які яму расказаў Андрэй Макаёнак. Было гэта ў 1973 годзе. У Араў-парку ў горадзе Манро штат Нью-Йорк драматург разам са скульптарам Анатолем Анікейчыкам адкрывалі помнік Янку Купалу. На тое свята сабраліся тысячы людзей. І калі Макаёнак пачаў чытаць верш Янкі Купалы «Брату на чужыне» і дайшоў да слоў:

*Ці помніш ты сваю матулю,*
*Што над калыскаю тваей*
*Пяяла песню-байку «люлі»,*
*Снуючы ў думках рой надзей?* –

пачуўся плач. Андрэй Макаёнак ажно схамянуўся, бо не думаў, што гэты верш так кагосьці ўразіць, кране. А самыя апошнія словы:

*Край беларускі, мірны, сумны,*
*Свой родны край ці помніш ты?* –

патанулі ў воплесках і рыданнях... А Вітаўт Кіпель згадвае ў сваёй кнізе «Беларусы ў ЗША» (Менск, 1993. С. 260) развагі аднаго левага беларуса: «У нядзелю 30 траўня я прыйшоў з сябрамі ў Араў-парк... Першнаперш я наведаў помнікі Т. Шаўчэнку, А.С. Пушкіну, Уолту Уітману і, ведама ж, майму земляку Янку Купалу. Гледзячы на Купалу, я думаў: вось мы тут у Амэрыцы думаем, што мы расейцы. Але ж у сапраўднасьці мы беларусы...». Вось якое значэнне меў і мае помнік Янку Купалу для нашых эмігрантаў у далёкай краіне.

Наогул, на чужыне беларусам ніколі не было лёгка, якой бы багатай і шчырай гэтая чужына не была. Беларусы заўсёды хацелі і хочуць жыць дома. Але лёс для многіх складваўся інакш. І там, далёка ад роднай Бацькаўшчыны, многіх нашых суайчыннікаў лячылі творы беларускіх песняроў – Янкі Купалы і Якуба Коласа. Асабліва тых, хто апынуўся на чужыне ў час Першай і Другой сусветных войнаў. Мікола Ганько, калі ў 1993 годзе наведаў Бацькаўшчыну, то сказаў: «Вырастаючы ў таварыстве пісьменнікаў, паэтаў і гісторыкаў, я моцна палюбіў паэзію з Янкам Купалам на чале. Калі прыходзіла хандра, я звычайна браў творы Купалы. Гэта была мая маральная апора, з якой я чэрпаў сілу да далейшага жыцця...».

Янка Купала даваў сілы ўсёй беларускай эміграцыі XX стагоддзя. Некаторыя, хто апынуліся на чужыне, ведалі на Бацькаўшчыне Купалу асабіста, былі ў яго дома, шмат разоў сустракаліся, гутарылі. Пра песняра далёка ад дому згадалі ў сваіх успамінах Іна Рытар, Яўген Калубовіч, Мікола Шыла, Мікола Куліковіч-Шчаглоў і іншыя. А ў 1923 годзе сам Янка Купала пісаў у Чыкага ліст Янку Чарапуку-Змагару, у якім хадайнічаў за беларускіх студэнтаў і прасіў дапамогі для тых, хто вучыўся ў Вільні ды Празе. І просьбу Купалы беларускія эмігранты выконвалі.

28 чэрвеня 1942 года Янка Купала трагічна гіне ў Маскве. А праз два дні гэтая сумная вестка праз «Асашэйтэд Прэс» дайшла да ўсіх беларусаў свету. «Белорусский иллюстрированный календарь на 1943 год», які выходзіў на рускай мове ў Буэнас-Айрэсе ў Аргенціне, надрукаваў артыкул пад назвай «Умер друг всего белорусского народа Янко Купало», а таксама змясціў партрэт паэта, кароткі нарыс пра яго жыццё, творчасць і вершы – «Песьня вольнага чалавека», «Ворагам Беларушчыны».

Беларусы на чужыне вельмі моцна перажывалі смерць Янкі Купалы. Літаратурна-мастацкі часопіс «Шыпшына» быў адзін з першых на эміграцыі часопісаў, які адзначыў 4-я ўгодкі смерці Янкі Купалы передрукам ягоных вершаў «А хто там ідзе?», «На сход», «Паўстань з народу нашага, Прарок» і твораў, прысвечаных песняру. Услед за «Шыпшынай» пра Янку Купалу пісалі ўсе беларускія эміграцыйныя выданні. Яны змяшчалі ягоныя творы, успаміны, выступленні,

*Помнік Я. Купалу ў Араў-Парку (скульптар А. Анікейчык)*

здымкі. Бадай у кожным нумары беларускіх выданняў на чужыне згадваўся Янка Купала – прарок беларускага народа. Пра песняра пісалі «Беларускія навіны» і «Моладзь» (Парыж), «Новае жыццё» (Сіднэй), «Беларускі эмігрант», «Беларускі голас», «Баявая Ускалось» (Таронта), «Аб'яднаньне» (Лондан), «Змаганьне», «Крывіцкі Сьветач» і «Бацькаўшчына» (Мюнхен), «Znic» (Рым), «Віці», «Беларус» (Нью-Йорк), «Раніца» (Берлін), «Беларускае слова» і «Беларуская думка» (Саўт-Рывер) і многія іншыя выданні.

13 снежня 1942 года ў Чыкага (ЗША) адбыўся першы вечар памяці Янкі Купалы, на які сабраліся беларусы з многіх штатаў. А паніхіду па песняру адслужылі яшчэ раней – 11 кастрычніка 1942 года.

Каб увекавечыць памяць пра генія беларускага народа, класіка нашай літаратуры, педагагічная рада першай беларускай гімназіі ў Баварыі прысвоіла гімназіі імя Янкі Купалы і стварыла пры гімназіі фонд імя Купалы. Пра гэтую падзею Іна Рытар-Каханоўская згадвала так: «У той дзень адбылася акадэмія. На сцэне вісеў вялікі партрэт Я. Купалы, намаляваны спэцыяльна для ўрачыстасьці мастаком Д. Чайкоўскім. З гэтага партрэту заказалі клішэ, зь якога скаўцкае выдавецтва зрабіла дзьве сэрыі адбіткаў: адну – для праграмак акадэміі, другую – для паштовак. Выкладчык беларускай мовы й літаратуры А. Каханоўскі прачытаў рэфэрат пра жыцьцёвы й творчы шлях Я. Купалы. Пасьля рэфэрату быў канцэрт. Кампазытар Мікола Куліковіч для гэтага канцэрту напісаў музыку да вершаў Я. Купалы "Я ад вас далёка". Песьню дуэтам выконвалі вядомыя салісткі Менскага Опэрнага Тэатру – Натальля Куліковіч (Чэмярысава) і Барбара Вержбаловіч. Акампаньяваў ім на піяніна сам кампазытар. Песьня гэтая мела надзвычайны посьпех. Перажываньні паэты, разлучанага з родным краем, спляліся з пачуцьцямі слухачоў, адгукнуліся болем у іхных сэрцах». (Ян Максімюк. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945–1950. Нью-Ёрк. 1994. С. 81–82).

У 1940–1950 гадах да Янкі Купалы і яго творчасці беларускія эмігранты сталі вяртацца ўсё часцей і часцей. Актыўна адзначаюцца ўгодкі з дня яго нараджэння, смерці, юбілеі кніжак і асобных твораў, інсцэніруюцца яго камедыі і іншыя драматычныя творы. Восенню 1945 года ў Буэнас-Айрэсе (Аргенціна) было заснавана Беларускае культурна-асветніцкае таварыства імя Янкі Купалы, а ў мясцовасці Камадора Рывадавія была адкрыта і бібліятэка імя Я. Купалы. 1 ліпеня 1948 года ў Парыжы таксама з'явілася беларуская бібліятэка імя Янкі Купалы. У ліпені 1952 года каля вадаспаду Ніягара адбылася першая сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. На ёй былі ўшанаваныя 10-я ўгодкі смерці паэта. А Вінцэнт Жук-Грышкевіч выступіў з дакладам пра песняра. Дарэчы, пазней спадар Жук-Грышкевіч абараніць доктарскую дысертацыю на тэму «Лірыка Янкі Купалы» на філасофскім факультэце Атаўскага універсітэта ў Канадзе.

Беларуская моладзь на эміграцыі ў 40–60-я XX стагоддзя была вельмі актыўнай. Юнакі і дзяўчаты захапляліся не толькі паэзіяй нашага класіка, але і яго драматычнымі творамі. Не было такой вечарыны, дзе б не ладзіліся спектаклі і інсцэніроўкі па п'есах Янкі Купалы. У лагеры Ватэнштэт (Германія) 24 сакавіка 1946 года быў пастаўлены абразок «На папасе», а на наступны год быў інсцэніраваны верш Купалы «Цару неба і зямлі», некалькі разоў тут ставілася «Паўлінка». У 1951 годзе ў Нью-Йорку драматычным гуртком беларускай моладзі быў арганізаваны і пастаўлены мантаж па творах Купалы «Пясьнярскім Шляхам» пад кіраўніцтвам Наталлі Орса. А праз тры гады была інсцэніравана паэма «Курган» (рэжысёр Натальля Орса). У 1960 годзе ў Саўт-Рыверы беларускім драматычным гуртком была пастаўлена «Паўлінка» (рэжысёр Ірэна Цупрык-Жылінская), якая шмат разоў паказвалася для беларусаў і людзей іншых нацыянальнасцей.

У многіх краінах свету з дакладамі і рэфератамі, прысвечанымі жыццю і творчасці Янкі Купалы выступалі беларусы-эмігранты Масей Сяднёў, Вітаўт Кіпель, Антон Адамовіч, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Язэп Малецкі, Уладзімір Клішэвіч, Алесь Алехнік, Станіслаў Станкевіч, Аляксандр Калодка, Уладзімір Сядура і іншыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі. Творчасць Янкі Купалы свядома абуджала беларусаў на чужыне, натхняла іх, дапамагала ім адчуваць сябе, як на Бацькаўшчыне. Янка Купала быў і застаўся сімвалам духоўнае сілы беларусаў. Праўда, у канцы 1940-х гадоў і ў пачатку 1950-х, як і раней, далёка ад Радзімы не заўсёды хапала паэтычнай Купалавай спадчыны, адпаведных вершаваных тэкстаў, ды і наогул, многіх твораў нашага песняра. Таму ў Ватэнштэце, Міхельсдорфе і Мюнхене ў 1946–1953 гадах асобнымі кнігамі былі выдадзеныя «Курган», «Магіла Льва», «На Куцьцю», «Раськіданае Гняздо» і «Тутэйшыя» Янкі Купалы. А ў 1955 годзе ў выдавецтве «Бацькаўшчына» (Нью-Йорк – Мюнхен) свет пабачыў вялікі том паэзіі Янкі Купалы «Спадчына» з уступным словам Станіслава Станкевіча, падрыхтаваны Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. Гэта была вялікая літаратурная падзея для ўсёй беларускай эміграцыі ў свеце. Пра выхад «Спадчыны» напісалі многія беларускія эміграцыйныя выданні. Адгукнулася на выхад паэзіі Янкі Купалы і небеларуская прэса, у прыватнасці, амерыканскія, англійскія, нямецкія, польскія, украінскія і французскія выданні. Газета «Бацькаўшчына» 11 лютага 1956 года пісала, што «Спадчына» годна рэпрэзентуе Беларусь. Некалькі перадач пра выхад паэзіі Янкі Купалы падрыхтавала радыё «Вызваленьне».

Праз 30 гадоў пасля выхаду «Спадчыны» Янкі Купалы ў Мюнхене, дзякуючы ўсё ж таму Беларускаму інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, з'явілася выдатная бібліяграфічная праца, складзеная Вітаўтам і Зорай Кіпелямі, якая называецца «Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе». Ва ўступе да яе напісана: «Укладальнікі прапанаванае бібліяграфіі імкнуліся зарэгістраваць усё, што пісалася пра Купалу й Коласа ў беларускамоўным друку на Захадзе, паза краінамі савецкага блёку. У меру даступнасьці матэрыялаў рэгістравалася й тое, што пісалася аб паэтах у беларускім друку былой Заходняй Беларусі, Літвы, Латвіі, Чэхаславаччыны ды Савецкай Беларусі, ня ўлічанае папярэднімі бібліяграфіямі».

Перафразіраваўшы радкі Станіслава Станкевіча з уступнага слова да мюнхенскай «Спадчыны» Янкі Купалы, хочацца сказаць, што роля і значэнне Купалы ў беларускай літаратуры вымяраюцца двума аспектамі ягонае творчасці: ідэйным і літаратурна-мастацкім. Гэтыя два моманты і надаюць Янку Купалу цэнтральнае і вядучае месца ў беларускай літаратуры, а таксама ў нашым сённяшнім жыцці і ў жыцці ўсёй беларускай эміграцыі XX стагоддзя.

# Справа прарока – праўдзівае слова

*(Заканчэнне. пачатак у № 19)*

Як бачым, сваю місію будзіцеля і прарока паэт адчуў рана. Не выпадкова ён, вясковы хлопец Іван Луцэвіч, знайшоў сабе такое народна-паэтычнае імя – Янка Купала. Ведаў, што будзе разам з усёй Старонкай Роднаю шукаць таямнічую кветку шчасця, будзе «З цэлым народам гутарку весці...» А гутарыць з народам можна выключна моваю праўды, якая горкая яна б ні была. Дый гэтага мала – праўду трэба казаць пранікнёна. І тут паспрыяла сама прырода таленту Купалы: ён бліскучы майстра лірыка-публіцыстычнага верша, у якім можна сканцэнтраваць магутную энергію думкі і пачуцця.

«А хто там ідзе?» (1905–1907) – вырвалася з глыбіні сэрца непараўнанага патрыёта Беларусі. Пятнаццацю радкамі геній як бы падкрэсліў перад усім светам: была, ёсць, будзе нацыя, якая ў бядзе, горы, «на худых плячах, // На руках у крыві, на нагах у лапцях» нясе сваю крыўду, прагнучы справядлівасці з неадольным жаданнем: «Людзьмі звацца». Далёка-далёка пайшло рэха дзейсных словаў. Нездарма кампазітар Рагоўскі стварыў да іх музыку, – атрымаўся гімн. Крыху пазней, у 1911-м, з'явіўся ў паэта яшчэ адзін гімн – «Не згаснуць зоркі ў небе» (музыка Янчука) з такой надзеяй: «Не загіне край забраны, // Покі будуць людзі». Спадзяванні, выказаныя ў гімнах, падмацавала «Мая малітва» (1906):

*Я буду маліцца і сэрцам, і думамі,*
*Распетаю буду маліцца душой,*
*Каб чорныя долі*
*з мяцеліцаў шумамі*
*Ўжо больш не шалелі*
*над роднай зямлёй.*

Па чысціні, красе і сіле пачуццяў з купалаўскаю малітвай можа параўнацца яго «Спадчына» (1918):

*І ў белы дзень, і ў чорну ноч*
*Я ўсцяж раблю агледзіны,*
*Ці гэтых скарб не збрыў дзе проч,*
*Ці трутнем ён не з'едзены.*

Зноў і зноў, з гранічнай шчырасцю і трывогаю, на мяжы чалавечых сілаў, звяртаўся паэт да свайго народа, заклікаючы яго стаць гаспадаром сваёй долі на сваёй зямлі:

*Чужак-дзікун,*
*крывёю ўпіўшысь свежай,*
*Запрог цябе ў няволю, ў батракі*
*І тваю маці Бацькаўшчыну рэжа,*
*Жывую рве на часці, на кускі.*

«Упаў народ. Змарнеў народ...» – з вострым болем заўважае пясняр і ўжо на мяжы з адчаем паўтарае: «Паўстань, народ!», «Паўстань, народ, прачніся, беларусе!» Падобнага хвалявання за лёс Бацькаўшчыны, за нацыянальную ідэю мы не знойдзем больш ні ў аднаго з самых слынных нашых творцаў. Шмат могуць сказаць чуйным душам беларусаў адны толькі найменні вершаў славутага песняра. Вось некаторыя з іх: «Ворагам Беларушчыны», «Роднае слова», «Беларушчына», «Маладая Беларусь», «Песняру-беларусу», «Беларус», «Забраны край», «Свайму народу», «Беларускія сыны», «Паўстань», «Зваяваным»... Відаць, толькі ў сусветнай літаратуры можна знайсці аналогію: хутчэй за ўсё геній нашага творцы-змагара сваёй народнасцю і самаахвярнасцю набліжаецца да генія Тараса Шаўчэнкі. Застаецца заўважыць: Шаўчэнка ўзышоў на сваю Галгофу ў 33 гады, як Хрыстос, Янка Купала – у 48. І да канца жыцця абодва пакутвалі, адзін – больш фізічна, другі – маральна.

Справа прарока – праўдзівае слова. Паэтычнаму слову Купалы не заміналя публіцыстыка, адкрытая, вострая, часта дасціпная. Самыя надзённыя, актуальныя, лёсавызначальныя пытанні падымаў пясняр і ў гэтым жанры: «Ці маем мы права выракацца роднай мовы», «Вера і нацыянальнасць», «Адбудова Беларусі», «Незалежнасць», «Моладзь ідзе!», «Беларускае войска», «Справа беларускага нацыянальнага гімна»...

Калі яшчэ ўзяць пад увагу паэмы і драматургію песняра, гэтыя шэдэўры, непараўнаныя скарбы мудрасці, гэтыя ўзоры любові да ўсяго святога і нянавісці да ўсяго здрадлівага і агіднага, то зусім відавочна, што Янка Купала – нашая агульнанацыянальная святыня, наш сцяг свабоды, пад якім мы абавязкова адбудуем рэальную незалежнасць Бацькаўшчыны.

***Васіль ЖУКОВІЧ***



*Фрагмент ілюстрацыі А. Дэмарына «За правы сялянаў»*



*Малюнак Васіля Шаранговіча да «Новай зямлі» Я. Коласа на трох мовах (выдадзенай «Беларускім фондам культуры»)*

**Па пытаннях набыцца можна звяртацца па тэлефонах (017) 334-42-03 і (017) 334-61-62**

## Ён і Яна

**Вярнуўся з Акопаў, і рука сама пацягнулася да томіка Купалы. Захацелася перачытаць створанае ім там, у Акопах – святым месцы нашай зямлі, дзе маладому Янку дыктаваў сам Бог.**

За тры леты ў Акопах ім напісана больш як семдзесят твораў. Адтуль родам мае любімыя паэмы «Яна і Я», «Магіла льва», «Бандароўна».

Усе гэтыя тры рэчы народжаны летам 1913 года. Высакародны геній Купалы выявіўся ўжо ў тым, што ў назве паэмы «Яна і Я» паэт на першае месца ставіць Яе. Для Купалы, як і для Пушкіна, існаваў культ Яе, рыцарскі культ пакланення жанчыне. У Пушкіна Яна – Мадонна, у Купалы – «Мая Багіня». Тут Купала шляхціц у самым высокім значэнні гэтага слова.

У тое зорнае для яго творчасці лета Купала жыў Ёю. Ён называў Яе «Мая», Яна паўстае то ў вобразе Наталкі, то ў вобразе Бандароўны.

Я перачытваю гэтыя паэмы пад шэпт цёплага летняга ліўня і стараюся ўявіць лета 1913 года ў Акопах. У рамане-эсэ «Як агонь, як вада» Алег Лойка піша, што тое лета таксама было дажджлівае. І, магчыма, Купала пісаў свае радкі таксама пад шэпт ліўня і перад яго вачыма стаяла Яна.

...Ужо каторы дзень не сціхае дождж, а маё сэрца перапоўнена сонечнай музыкай Купалы і ўдзячнасцю Ёй – Паліне Вікенцьеўне Мядзёлцы, хоць яна і не ашчасліваіла паэта сваім каханнем. Але ж ён сам сказаў:

*На беларускую дзяўчыну,*
*Калі тут праўду ёй аддаць,*
*Ніхто йшчэ каменем не кінуў*
*І не наважыцца кідаць.*
*Не наважуся і я...*

Ды і хто ведае, ці былі б у нашай літаратуры гэтыя тры шэдэўры, калі б Паўлінка адказала ўзаемнасцю. Можа, гэта акурат той выпадак, пра які ў народзе кажуць, што Бог усё дае да лепшага...
А ў Акопах Купалу дыктаваў сам Бог.

***Алесь ПІСЬМЯНКОЎ***
*1990-я гады*

***(Працяг. Пачатак у №№ 3–19)***

«...Так мне ўсё малявалася напачатку. Задума была на той час крамольная. Як толькі справа даходзіла да пісання, выяўляўся пэўны бунт супраць ладу... Рабіў накіды ўроскідку, паміж замалёўкамі "Новай зямлі". Не паспеўшы аб'ядноцца ў цэласць, яны рабілі няўнае ўражанне і не наклікалі б на маю галаву небяспекі, каб нават і трапілі на чыесь вочы. Усё ж падчасператрасання камеры я борздзенька хаваў паперы на грудзі і трымаў, прыціснуўшы падбароддзем, да канца ўструшні. Мая густая барада не дазваляла заўважыць, што там затоена пад ёю, а на асабістыя вобыскі ў палітычных турэмнае начальства адважвалася рэдка».

За восень 1908-га Я. Колас здолее напісаць, захаваць, а ў 1909-м і пазней надрукаваць болей дзесятка вершаў. Назвы некаторых з іх пра многае гавораць самі за сябе: «Думкі ўюцца, томяць грудзі...», «Вобраз пакуты», «У няволі», «Наша сяло», «Родныя вобразы» і інш. Гэтыя творы – вынік цяжкіх думак і пачуццяў, марнавання маладых фізічных і маральных сіл у пакутлівых умовах зняволення, настальгія па волі і родных мясцінах.

Пазней Цішка Гартны (Зміцер Жылуновіч, 1887–1937; беларускі пісьменнік, грамадскі і дзяржаўны дзеяч, член РСДРП з 1902 года) успомніць, што на яго роднай Капыльшчыне вершы Я. Коласа сталі вядомыя нават у рукапісах яшчэ з 1906 года, асабліва тыя, дзе былі моцныя антыцарскія матывы («Канстытуцыя», «Асадзі назад»). Гэтыя творы капыльчане дэкламавалі на розных падпольных сходках, натхняючыся на рэвалюцыйную барацьбу. Тое, што іх любімы паэт трапіў за краты, «гэта яшчэ шчыльней наблізіла яго да капыльскай моладзі. Яго вершы з астрогу – "У астрозе", "Сцёпкаў сон", "Ноч у астрозе", апынуўшыся ў Капылі, выкрывалі нутраныя пачуцці аўтара, вядомыя і зразумелыя моладзі... Седзячы ў астрозе, ён, аўтар, пэўна, і не западозрываў таго, што яго пісьменніцкі шлях распахова і шырока пракладаўся ў куткі прыціснутай царскай рэакцыяй краіны. Жывая пошта працавала над распаўсюджваннем коласаўскіх твораў, заносячы іх у семінарыі, у сельскія школы, на кватэры перадавых чытачоў з местачковай і сялянскай моладзі» (Ц. Гартны. Позірк у мінулае // ЛіМ. 4 снежня 1932 г.).

Тут варта ўдакладніць: сам Я. Колас датай напісання верша «Канстытуцыя» пазначыў 1908 год (упершыню надрукаваны ў 1917-м). Значыць, капыльскія сацыял-дэмакраты і іхнія прыхільнікі азнаёміліся з рукапісным творам не раней 1908-га. А тое, што верш у той рэакцыйны пасля рэвалюцыі 1905–1907 гадоў час захапіў маладых рэвалюцыянераў, гэта зразумела...

***Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ***






Бібліятэка – асяродак нацыянальнай культуры

# Вярнуцца да сваіх вытокаў

## З досведу працы Азерскай сельскай бібліятэкі Уздзенскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы

*Уздзеншчына! Наша радзіма! Край непаўторны сваёй ціхай, някідкай прыгажосцю. Колькі паэтаў, празаікаў, мастакоў, артыстаў, вучоных нарадзіла і натхніла гэтая зямля са светлымі берагамі, каласістымі нівамі. Колькі адметных гістарычных падзей тут адбывалася ў розныя часы. Вёска Возера – звычайны населены пункт Уздзенскага раёна, цэнтр сельскага Савета і эксперыментальнай базы імя Катоўскага. Бібліятэку наведвае прыкладна 450 карыстальнікаў.*

*Ацаніць, па-сапраўднаму зразумець гісторыю сваёй Бацькаўшчыны, даведацца пра мінулыя і сённяшнія дні роднага краю, выхаваць павагу і любоў да роднай мовы, народных традыцый – вось асноўны накірунак, у якім плённа працуе больш за дваццать гадоў бібліятэкар Азерскай сельскай бібліятэкі Ірына Міхайлаўна Самовіч.*

У бібліятэцы створаны краязнаўчы фонд, куток сялянскага побыту, праводзяцца розныя краязнаўчыя мерапрыемствы.

«Аб чым гавораць экспанаты» – пад такой назвай экспазіцыя падае сялянскі побыт мясцовых жыхароў. На сёння гэта больш за 50 старадаўніх прадметаў адзення, прыладаў працы, вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва канца XIX – пачатку XX стагоддзя. А пачыналася ўсё з выставы «Рук залатых зямныя цуды», якая ладзілася ў бібліятэцы ў 1999 годзе. Саматканыя посцілкі, вырабы, вязаныя кручком, спіцамі, вышываныя сурвэткі прапанавала Аляксандра Арцёмаўна Шпілеўская. Наведнікі зацікавіліся прыгожай выстаўкай, а людзі старэйшага ўзросту прапанавалі зрабіць выстаўку старых рэчаў, прадметаў хатняга ўжытку, якімі ў наш час ужо не карыстаюцца, а выкінуць іх шкада.

Першыя экспанаты – збаны, якія знайшла сама Ірына Міхайлаўна на гарышчы бацькоўскай сядзібы. Потым прайшлася па хатах аднавяскоўцаў: разам выцягвалі розныя прылады, аглядаючы хлявы і пуні, успаміналі, для чаго і як выкарыстоўвалі гэтыя рэчы ў гаспадарцы продкі. Добрую справу падтрымалі і школьнікі, разам з настаўніцай гісторыі Аляксандрай Вітальеўнай Казей прыносілі цікавыя экспанаты. Вялікі ўклад у стварэнне экспазіцыі ўнесла Любоў Францаўна Малашка, якая не адзін раз прывозіла на калясцы старыя рэчы: лапату для выпечкі хлеба, нож для нарэзкі торфу, ночвы пад каўбасы, драўляныя ночвы, прас. У свае 78 гадоў Любоў Францаўна з'яўляецца адной з актыўных чытачак сельскай бібліятэкі, хоць і мае дома асабістую бібліятэчку. Значную частку экспанатаў дала Ганна Фёдараўна Чуеўская: бравaрка, кадобка, дзягла, сявенька. Кожны, хто заходзіць у бібліятэку, адразу звяртае ўвагу на гэты незвычайны куток. Маленькія і дарослыя наведнікі з цікавасцю разглядаюць ручнікі, адзенне, вышываныя рэчы, гліняны посуд, вырабы з саломкі. Тут праходзяць краязнаўчыя ўрокі «Скарбы бабуліных куфэркаў», гістарычныя вандроўкі «Сцежкамі продкаў», гутаркі-разважанні «Са спадчынай продкаў – у будучыню», урокі радзімазнаўства «Адкрываем Радзіму, спасцігаем сябе».

Адметным у працы бібліятэкі з'яўляецца тое, што ў ёй створаны краязнаўча-інфармацыйны цэнтр, дзе сабрана шмат краязнаўчай літаратуры. Тут змешчаны кнігі, дакументы аб вёсцы, тэматычныя папкі «З роднаю зямлёю свой лёс звязалі», «Дарагія мае землякі» і фальклорны

# краязнаўча-прававой тэрміналогіі

# Ш



1706–1707-х шастакі выпускаў Гродзенскі манетны двор.

**ШАЛЁНЫ** – псіхічна хворы чалавек, які ў нездаровым, бессвядомым стане мог здзейсніць злачынства. Статут ВКЛ 1588 г. даволі падрабязна рэгламентаваў пытанні, звязаныя з прававым становішчам гэтай групы людзей. Калі прызнаны шалёным быў з маёмаснага стану, то яго павінны былі даглядаць сваякі, знаёмыя і слугі. Бедных шалёных знявольвалі. За ўцёк яго з-пад варты і ўчыненае ім злачынства нёс адказнасць яго ахоўнік. У судовым парадку адказваў і той, што падбухторыў такога хворага на злачынства. Шалёны, які паправіўся, а потым зноў захварэў і ўчыніў забойства, прысуджаўся да пакарання смерцю.

**ШАНОК** – адзінка вымярэння сыпкіх рэчываў у ВКЛ. Адрозніваліся два шанкі. Даўні на 48 малых гарцаў, новы на 24 малыя гарцы – адпаведна, каля 135,5 л і 67,8 л.

**ШАРВАРКІ** – феадальная павіннасць па будаўніцтве і рамонце дарог, мастоў, грэбляў, панскіх будоўляў ВКЛ і Рэчы Паспалітай у XV–XVIII стст. Іх памер не быў пастаянны і складаў да 24 рабочых дзён у год з сялянскага двара. Шарваркі існавалі ў Заходняй Беларусі з 1920-х па 17 верасня 1939 года.

**ШАСНАСТКА** – адзінка вымярэння сыпкіх рэчываў у сістэме мер ВКЛ. Раўнялася $^1/_{16}$ бочкі віленскай або 9 малым гарцам – 25,4 л.

**ШАСТАК** (шасціграшовік) – срэбная манета Польшчы і ВКЛ вартасцю 6 грошаў. Літоўскі шастак адчаканены ў 1547 і ў 1562 гг. у Віленскім манетным двары (маса 5,34 г, срэбра 4,66 г). Пазней чаканіўся нерэгулярна, маса мянялася. У

**ШАФУНАК** – тэрмін, якім Статут ВКЛ 1588 г. вызначаў паўнамоцтвы ці іх ажыццяўленне дзеля таго, каб устанавіць парадак кіравання, вырашэння спраў, распараджэння маёмасцю, выканання функцый правасуддзя.

**ШАЦУНАК** – ацэнка маёмасці ў грашовай наяўнасці, пісьмовы акт (рэестр), які меў юрыдычнае значэнне пры судовым разглядзе грамадзянскіх спраў, афармленні спадчыны, дарчых, куплі-продажу. Статут ВКЛ 1588 г. падрабязна вызначаў шацунак на рухомую і нерухомую маёмасць.

**ШАЦЫЯ** – вусная просьба, хадайніцтва ці заява істца, адказчыка, падсуднага, іншых удзельнікаў судовага разбору у ВКЛ.

**ШКОДА** – тэрмін, які шырока ўжываўся ў Статуце 1588 г. і ў іншых прававых актах ВКЛ для вызначэння матэрыяльных і маральных страт. У адрозненне ад крыўды шкода магла быць нанесеная і ў выніку ненаўмысных учынкаў. З'яўлялася падставай для ўзнікнення крымінальнай або грамадзянскай адказнасці і давала права пацярпеламу патрабаваць кампенсацыі матэрыяльных страт вінаватым.

**ШКРУТЫНІУМ** (ад лац. даследаванне) – папярэдняе следства па крымінальнай справе ў ВКЛ. Той, хто вёў яго, называўся шкрутатарам. Следства па справе аб забойстве праводзіў ваявода або староста і земскі суд. Ваявода мог даручыць займацца следствам і падстаросце. Галоўным следчым дзеяннем было допытванне сведак, якія перад дачай паказанняў прыводзіліся да прысягі. За неаб'ектыўнасць шкрутатары маглі быць пакараныя.

**ШЛЯХТА** (ад старажытна-верхненямецкага «род», «парода») – прывілеяванае саслоўе ў Польшчы, Чэхіі, Літве, на Украіне і ў Беларусі ў XIII – пач. XX стст.) Прывілеі ёй забяспечвала феадальная ўласнасць на зямлю.

У ВКЛ з XIII ст. буйныя землеўласнікі захоўвалі былую назву – баяры. З 1-й чвэрці XVI ст. старажытная назва пачала мяняцца – «значныя баяры», баяры-шляхта, шляхта. Заможных магнатаў пачалі называць «панамі». На ніжэйшай прыступцы шляхецкага саслоўя была дробная шляхта, якая мела невялікія надзелы зямлі з некалькімі сялянамі ці без іх. У XV–XVI стст. існавала яшчэ значная доля ваенна-служылых насельнікаў, якія з'яўляліся пераходным слоем паміж феадаламі і сялянамі. Апошнія, зразумела, намагаліся ўліцца ў лік першых (гэта нярэдка ім і ўдавалася). У асобных выпадках да шляхты залічаліся і абагацелыя ці за нейкія важныя паслугі дзяржаве і людзі пахожыя – адпаведна, працэс фармавання саслоўяў у ВКЛ меў розныя этапы і акалічнасці.

Шляхта найперш фармавалася як вайсковае саслоўе – як вядомыя ваенныя слугі ў 2-й чвэрці XV ст., якія ў XVI ст. паскорана пачалі станавіцца шляхтай, набываць і замацоўваць свае правы. На гэта часта з ахвотай ішлі вялікія князі ВКЛ дзеля забеспячэння сабе шырокай падтрымкі новага саслоўя. Напрыклад, прывілеем 1387 г. Ягайла гарантаваў баярам ВКЛ, якія прымалі каталіцкую веру, права на ўласныя вотчыны і вызваляў іх ад шэрагу павіннасцей. У 1413-м паны і баяры каталіцкага веравызнання атрымалі права займаць пасады віленскага і трокскага ваяводаў і кашталянаў.

Калекцыянерам, і не толькі

## Скаўцкі вузел

Стогадоваму юбілею скаўцкага руху прысвечаны дзве мініяцюры беларускай пошты. На марцы адлюстраваны скаўцкі прамы вузел, – эмблема Беларускай рэспубліканскай скаўцкай асацыяцыі. Іх памеры 28х30 мм, наклад – па 70 тысячаў асобнікаў. Мастак першай Арцём Рыбчынскі (ён жа і аўтар канверта «Першы дзень»), другой – Святлана Лумянская (таксама – мастак спецштэмпеля). На марках прыменены элементы абароны.







Нагадаем, што рух нарадзіўся ў Англіі з мэтай выхавання моладзі ў духу патрыятызму і рэлігійнасці. У перакладзе з англійскай мовы слова «скаўт» азначае «разведчык». Аб'ядноўвае бойскаўтаў (хлопчыкі) і гёрлскаўтаў (дзяўчынкі). У розных краінах мае свае формы, асаблівасці і адметнасці. Зрэшты, і ў Беларусі напачатку (1990-я гады) былі дзве скаўцкія арганізацыі, якія розніліся ў акцэнтах дзейнасці. Адны дбалі пра духоўнае выхаванне на глебе беларускіх гісторыі і культуры, другія – з славянскім ухілам, які часцяком падмяняўся ўшанаваннем рускіх герояў і іх дзеяў.

У дзень выхаду на Мінскім паштамце праводзілася спецгашэнне на канверце «Першы дзень». Падрыхтаваная таксама па-мастацку аздобленая кніжка паштовых марак. У ёй – аркуш з 7 марак і 1 купона (на якім змешчана выява заснавальніка скаўцкага руху). Наклад – 10 тысячаў асобнікаў.

## Найлепшыя

Скончылася традыцыйнае апытанне-конкурс «Найлепшая паштовая марка Рэспублікі Беларусь 2006 года». Было даслана 1 104 анкеты ўдзельнікаў. Паводле падліку галасоў вызначыліся наступныя пераможцы:

**3 месца** – блок № 52 «Беларускія спартсмены на Алімпійскіх гульнях у Турыне», мастак І. Лукін (114 галасы);

**2 месца** – блок № 51 з трох марак «Кажаны Беларусі», мастак А. Міцянін (153 галасы);

**1 месца** – неперфараваны блок «V Нацыянальная філатэлістычная выстаўка "БелФІЛА"», мастак наддрукоўкі І. Лукін (282 галасы).

Арганізатары конкурсу дзякуюць усім удзельнікам за прапановы, якія будуць улічаныя надалей, а пераможцы конкурсу былі ўзнагароджаныя філатэлістычнымі сувенірамі.

***Вялікі дзякуй за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялаў рубрыкі супрацоўнікам выдавецкага цэнтра «Марка» РУП «Белпошта»***





альбом «Бабулі, дзядулі расказваюць», летапіс вёскі «Зямля бацькоў». Чытачам прапанаваны наступныя выставы-прагляды: «Зямля, дзе пачаўся наш лёс», «Вёска мая, я часцінка твая» (пра сучаснае жыццё вёскі), «Яны не вярнуліся з вайны», «Азерскае патрыятычнае падполле», «Працай не хваляцца, а ганарацца» (пра перадавікоў сельскай гаспадаркі), «Кожны край мае тых, хто яго апявае», «У кожнай хаце майстры жывуць».

Шмат матэрыялаў сабрана пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Ёсць альбомы, прысвечаныя Возерскаму патрыятычнаму падполлю, воінам, якія загінулі пры вызваленні вёскі, землякам, загінулым на франтах. Цікавасць выклікаюць папкі, прысвечаныя 444-у батальёну аэрадромнага абслугоўвання 4-й паветранай арміі, які ў 1944 годзе быў размешчаны на аэрадроме вёскі Возера. Карыстаюцца гэтымі матэрыяламі настаўнікі, вучні мясцовай школы, госці, якія наведваюць бібліятэку, і ўсе, хто вывучае гісторыю роднага краю.

Ірына Міхайлаўна Самовіч умее аб'яднаць вакол сябе людзей, жыве інтарэсамі і справамі вяскоўцаў. Для вучняў сярэдніх класаў стварыла клуб «Кнігалюб», які плённа працуе пад дэвізам «Прачытай сам – раскажы сябрам». На працягу года праходзяць цікавыя мерапрыемствы, якія рыхтуюцца разам з дзецьмі, – калядная вандроўка «Добры вечар таму, хто ў гэтым даму», выстава-прагляд да 200-годдзя Напалеона Орды «Гісторыя ў малюнках», гістарычнае падарожжа «Слыннае імя Бацькаўшчыны», агляд твораў мясцовых паэтаў да сусветнага Дня паэзіі, прысвячэнне ў чытачы на адкрыцці Тыдня дзіцячай кнігі і музыкі «З табою, кніга добрая...», конкурс эрудытаў «Прадоўжы байку Кандрата Крапівы», міні-канцэрт у жылым доме «Ветэран жыве побач» і іншыя.



*Бібліятэкар Азерскай сельскай бібліятэкі Ірына Міхайлаўна Самовіч праводзіць агляд твораў мясцовых аўтараў «Роднаму слову – гучаць»*

Блізкія ўзаемаадносіны склаліся паміж бібліятэкай і мясцовай школай. Свaёй галоўнай мэтай Ірына Міхайлаўна лічыць навучыць дзяцей шанаваць спадчыну, не даць загінуць беларускім вытокам, народным традыцыям, нашай мове. Арганізоўваюцца сумесныя мерапрыемствы, запрашаюцца госці, сярод якіх была настаўніца матэматыкі паэт-аматар Наталля Уладзіміраўна Вайцяховіч, член літаратурнага аб'яднання «Нёманец», сябра паэтычнага клуба пры сталічным Палацы культуры ветэранаў. Свае думы і надзеі яна даверае паперы, а потым дзеліцца з чытачамі на шматлікіх літаратурных мерапрыемствах, што ладзяцца ў бібліятэцы. У краязнаўчым кутку яе творчасці прысвечана тэматычная паліца «У родным слове – цэлы свет», дзе змешчаны вершы, якія друкуюцца ў газетах «Чырвоная зорка», «Мінская праўда», «Народная газета», «Настаўніцкая газета», часопісе «Вожык».

***Ірына Міхайлаўна Самовіч цвёрда ўпэўнена, што народ жыве, пакуль жыве яго гістарычная памяць. І таму імкнецца ўплываць на пачуцці кожнага чытача да лёсу сваіх землякоў, любові да роднага краю, яго гісторыі, цікавасці да сучаснага.***

*Аксана ДРАЧАН,*
*метадыст Уздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя П. Труса*

# Чарговае падарожжа па вуліцы імя...

***У канцы мінулага года ў нашых чытачоў была магчымасць разам з «КГ» (№ 44 (157)) павандраваць па сталічнай вуліцы Максіма Багдановіча і паглядзець на шыльды-назвы, мовы іх напісання. Прапануем новы маршрут – вуліца, названая імем Якуба Коласа, 125-годдзе з дня нараджэння якога сёлета адзначаецца ў нашай краіне.***

*Вуліца бярэ пачатак з аднайменнай плошчы. Таму адправімся ў вандроўку адсюль, а дакладней, ад яе цэнтра, сэрца – помніка класіку нацыянальнай літаратуры.*

*У госці да песняра прыходзіць багата народу, асабліва моладзі, якая ў асноўным, як цяпер модна казаць, «тусуецца». Відаць, Канстанціну Міцкевічу, Сымону-музыку, Дзеду Талашу вельмі падабаюцца фігуры «вышэйшага пілатажу», што так старанна дэманструюць ім штовечар на скейтах і веласіпедах. Стварaецца ўражанне, што Якуба Коласа яшчэ цікавіць, якія новыя гатункі піва прадаюцца ва універсаме насупраць. Надта ж актыўна народ дапамагае пра гэта даведацца... Кожны па-свойму аддае даніну павагі літаратару, яго творчасці. Але верыцца, што нехта ўсё ж сядзіць на лаўцы пад шатамі бярозак і чытае томік «Новай зямлі».*

*Працягнем вандроўку. Даўжыня вуліцы складае 2 678 метраў. Цікава, а колькі беларускамоўных метраў яна мае. Паспрабуем падлічыць.*

### Назвы на рускай мове

1) Салон-магазин «Импульс»; 2) Парикмахерская-салон «ИлирияЛюкс»; 3) Лечебно-диагностический центр «Око»; 4) Магазин «Проспект»; 5) Салон-магазин «Аридела»; 6) Мини-кафе «Мари»; 7) Магазин «Бельё для вас»; 8) «Счастливый десяток» (фірменны магазін 1-й мінскай птушкафабрыкі); 9) Автотракторный факультет (БНТУ); 10) «Амазон»; 11) Продукты; 12) Обувь; 13) Семена; 14) Магазин. Оптика, медицинская техника; 15) Стоматология; 16) Спортивные товары «Спортмастер»; 17) Магазин «Спорттовары»; 18) Салон-магазин «Музыка»; 19) Обувной базар «Нарасхват»; 20) Аптека; 21) Цветы; 22) Фото-сервис; 23) Салон-парикмахерская; 24) Ресторан «Кабачок 12»; 25) Туристическое агенство «ТОП ТУР»; 26) Салон мебели; 27) Кафе-бар «7 тонн»; 28) Мёд; 29) Зоотовары «Золотая рыбка»; 30) Аптека; 31) Парикмахерская «Ваш мастер»; 32) Цветы; 33) Автошкола, автозапчасти; 34) Парикмахерская «Гламур»; 35) Солярий, тренажёрный зал «Рефлекс»; 36) Белтелеком; 37) «Зелёный клён»; 38) Парикмахерская «Каприз»; 39) Аптека; 40) Гастроном; 41) УП «Минское отделение белорусской торгово-промышленной палаты»; 42) Хозяйственный магазин «Логойский тракт»; 43) Овощи, фрукты, продукты; 44) Обмен валют; 45) Салон светильников «Сиреневая луна»; 46) Салон посуды «Sothebys»; 47) Флора-дизайн; 48) Сервис центр, салон-магазин; 49) Мир обоев, обои, свет «7 дней в неделю», ламинат, техника; 50) Салон мебели Берга; 51) Сантехника «Андеграунд» керамика; 52) Ресторан.








### На рускай і беларускай мовах

1) Гостиница «Спорт» гасцініца; 2) Подарки, падарункі; 3) Книги, кнігі, канцтовары.

### На беларускай мове

1) Навуковая бібліятэка (БНТУ); 2) Тэлефон, пошта, тэлеграф; 3) Прадукты; 4) Аптэка; 5) Прадукты «Сялянскія прысмакі»; 6) Усё для агарода, магазін «Насенне», усё для саду; 7) Белсаюздрук.

*Ігар ГРЭЧКА,*
*фота аўтара*

***Ад рэдактара.*** ***Што ж, падлічыць, колькі метраў з 2 678 беларускамоўныя, думаю не цяжка. Цікава ведаць, што на гэта адкажа Мінгарвыканкам? Ці заўважаюць яго кіраўнікі (а сярод іх многа людзей адукаваных), якую крыўду наносяць класіку беларускай нацыянальнай літаратуры праз 125 год з дня яго нараджэння.***

***Давайце памарым. У Год Слова Я. Купалы і Я. Коласа, 2007-ы, Мінгарвыканкам прымае гістарычнае рашэнне: уся рэклама на вуліцах беларускіх песняроў становіцца выключна беларускамоўнай, яркаю і прыгожаю.***

***З вуліцы знікнуць такія незразумелыя ні беларусу, ні рускаму назвы як «Ілірыя», «Арыдэла», «Амазон», «Гламур» і іншыя. Турыстычныя бюро Мінска адразу ж наладжваюць экскурсіі па гэтых вуліцах для іншаземцаў, настаўнікі школ – пазашкольныя заняткі па вывучэнні роднай мовы навучэнцамі, бацькі дашкалят з задавальненнем чытаюць сваім нашчадкам першыя ў іх жыцці літары і складаюць з іх словы – па-беларуску.***

***Добра разумею, што па сённяшнім часе гэтая мара – больш фантазія. Але ж, хаця б знікла блытаніна на вуліцах горада ў назвах «аптека – аптэка», «почта – пошта» і падобных да іх.***

***І апошняе. Давайце павучымся ў нашых братоў-славян рускіх і ўкраінцаў: першыя аб'явілі 2007 год годам рускай мовы, другія – годам украінскай кнігі. Мы ж, беларусы, хаця б здолелі ў галоўным горадзе краіны зрабіць беларускімі дзве вуліцы – Янкі Купалы і Якуба Коласа. Глядзіш, прыклад гэты дасць штуршок да абвяшчэння на дзяржаўным узроўні 2012 года – Годам Слова Я. Купалы і Я. Коласа, годам беларускага Слова.***





**З народнага**

## Выпыдак з віхрым

Выпыдкі былі-і-і. З віхрым быў случый тожа. Пасьвіў кароў у Ліпніку (урочышча. – І.Я.). І там быў панскі лясок. Йшчэ астаўшыся. Пасціў кароў, а схвацілыся бура. І пашоў дош. І папёрла маіх кароў. Іс току скінула крышу і абярнула. А маіх мульчуганyў німа. Пайду шукаць айдзе Міша. А ён увесь у мялінні (мяллі). Яго пыдняло на крышу, а крышу скінула. І яго на крышы. І жыў. Я яго зы руку. А Кірылкі німа. Ідзе ш ён дзеўся? Ны гумне ліпіну вывірнула. І ён сядзіць прама так лі кымля. (Ці страшна было ім? – І.Я.). Мы ш, каацъ, ня помнім. Кароў німа. Бачу згарода пувалілыся. І каpоўськія сыляды. І кароў сыгнала ны кілометыр у лес. І пылыса лесу ляжыць. Яны ў другі бок ударыліся. Пу правуй стыране лес ляжыць, а па левуй – каровы стыялі. Пастухі прышлі і пагналі. Усе цэлы былі.

*Запісана 25 чэрвеня 1988 г. ад Рамана Рыгоравіча Вундзілоўскага, 1900 г.н., в. Міцюкова-2 Сенненскага раёна*

## Лапці сушацца

Хацеў у Бакунавічах чалавек Сож піраплысьць. Сеў сабе зьвізаў ногі ў лыпцях, каб ні разуліся. Атпіхнуўся і метры два ат'ехуўся і гулува ўніз крутнулыся. Пылідзяць людзі плывуць ногі і на йіх лапці сушуцца.

*Запісана ў в. Крамянка Слаўгарадскага раёна*

## Лічылка

*Сяку, сяку, сяку рас.*
*Сяку, сяку, сяку два.*
*Сяку, сяку, сяку тры.*
*Хто ня верыць,*
*Хай праверыць,*
*Калі ні шыснаццаць.*

(На палцы ад ножыка павінна быць 16 «прасечак» ці «насечак». Цікава: 16 слоў лічылца, а службовыя не ўтвараюць насечак.)

*Запісана ў 1987 г. ад Кацярыны Паўлаўны Васілёнак, 1929 г.н., в. Камішчына Сенненскага раёна*

*З захаваннем асаблівасцяў мясцовых гаворак запісаў*
**Іван ЯШКІН**

## Вада – радасць і бяда

Хутка адкрыецца купальны сезон. Што можа быць лепш, чым акунуцца спякотным днём у халадноватую ваду. Праведзены ля ракі час дорыць бадзёрасць і добры настрой. Але, на жаль, прыемныя «водныя працэдуры» заканчваюцца так не заўсёды. Паводле аналізу шматгадовай статыстыкі, лідэрства сярод патанулых належыць нецвярозым. На другім месцы – тыя, хто парушае меры бяспекі і правілы паводзінаў на вадзе. На трэцім – ні ў чым не вінаватыя дзеці, якія гінуць з-за недагляду бацькоў і дарослых.

**Як жа засцерагчыся ад небяспекі? Вось нескладаныя для выканання рэкамендацыі:**

– выбірайце для купання месцы з пакатым чыстым дном, няхуткай плынню;
– пачынайце купанне пры тэмпературы паветра не ніжэй за плюс 18;
– не купайцеся з перапоўненым страўнікам і нашча;
– калі дрэнна плаваеце, не заходзьце глыбока ў ваду;
– не купайцеся ў адзіночку, пад час моцнага ветру, у час навальніцы альбо цёмнага часу сутак;
– не пакідайце дзяцей у вадзе без нагляду;
– пры сутаргах змяніце спосаб плавання, не рабіце рэзкіх рухаў;
– калі трапіце ў моцную плынь, не плывіце супраць яе, старайцеся па цячэнні наблізіцца да берага.

**І апошняя рэкамендацыя:** калі пачынаеце купальны сезон, памятайце, што за зіму плавальныя навыкі заўважна зменшыліся, арганізм аслабеў і яшчэ не адаптаваўся да рэзкай змены тэмпературы. Таму да вады прывыкайце паступова, не спяшайцеся ставіць рэкорды і здзяйсняць сяброў унікальнымі здольнасцямі.

***Вольга ХВАШЧЭЎСКАЯ,*** **інспектар ЦРАНС**



Фота Міхася ХАМЦА

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 18**

**Уздоўж.** 6. Лясгас. 7. «Паркан». 9. Гай. 11. Чмель. 12. Савіч. 13. «Арганаўты». 16. Вымова. 19. Камяні. 20. Гарадок. 23. Скалалаз. 24. Абстэрна. 26. Хроніка. 29. Кароль. 30. Юневіч. 34. Ластоўскі. 36. Кулон. 37. Школа. 38. Дно. 39. Акруга. 40. Касцёл.

**Уперак.** 1. Мятла. 2. Шадыра. 3. Драўніна. 4. Балота. 5. Палац. 8. Смірын. 10. Вільня. 14. Святаполк. 15. Паўстанне. 17. Паазер'е. 18. Полацкі. 21. Цар. 22. Юр'я. 25. Шамшур. 27. Накоўнік. 28. Мікола. 31. Сапега. 32. Эколаг. 33. Томка. 35. Акцёр.

**Адказы на загадкі, змешчаныя ў № 19**

Дарога, дарога, дарога; сцежкі ад дарогі да хат; сцежка.

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ГАЗОН** (франц.) – кавалак зямлі з аднародным прыродным або спецыяльна створаным покрывам, роўна і коратка падстрыжаным. Адрозніваюць дэкаратыўныя газоны (партэрныя, паркавыя, лугавыя, маўрытанскія), спецыяльнага назначэння і спартыўныя. Партэрны газон – асноўны складальнік кветніка і партэра (адкрытая частка парку) ў садова-паркавай кампазіцыі – з'яўляецца фонам для кветкавых насаджэнняў, дэкаратыўных дрэў, скульптур, фантанаў і інш. Паркавыя газоны ўтвараюць у парках, садах, скверах, бульварах, на жылых і вытворчых тэрыторыях. Лугавыя газоны ствараюць на аснове натуральнага травянога покрыва, пашыраны ў прыгарадных зонах (лугапаркі).

У цяперашні час газоны пачалі шырока выкарыстоўваць уладальнікі загарадных сядзіб і лецішчаў.

**ГАЛАСНІК** – пасудзіна з керамікі нападобе збана, якую ўмуроўвалі ў сцены будынкаў горлам у інтэр'ер дзеля паляпшэння акустыкі і інш. У беларускай архітэктуры галаснікі вядомыя з XII ст. (гродзенская Барыса-Глебская царква).

**ГАЛАЎНЫЯ ЎБОРЫ** – дадатак да адзення, а то і ахарошванне яго. Са старажытнасці падкрэслівалі маёмасны стан чалавека, а жаночыя – і сямейнасць, а таксама і рэгіянальная асаблівасці. Былі для цёплых і халодных часін, таму вырабляліся з розных матэрыялаў (сукно, лямец у мужчын; вянок у дзяўчат; чапец, а паверсе убрус у жанчын і г.д.)

Галаўныя ўборы заможнага люду выраблялі з дарагіх мануфактурных тканін (аксаміт, парча, шоўк, добрае сукно), футра собаля, куніцы, бабра, ліса, вавёркі і багата аздаблялі каштоўнымі камянямі, жэмчугам, пер'ем, вышыўкай і карункамі з залатых і срэбраных нітак. Магнаты і гарадская знаць у XVI–XIX ст. любілі кучмы, ялмонкі, канфедэраткі, брылі, магеркі з ясачных тканін, а шляхта насіла шапкі-каўпакі (святочныя ўпрыгожвалі, у тым ліку і чапліным пер'ем), а духавенства – найперш скуф'ю (спічастая шапка з чорнага або фіялетавага аксаміту). Жаночыя галаўныя ўборы вызначаліся разнастайнасцю тыпаў, шыкоўным аздабленнем, дапасаваннем да адзення, імкненнем як мага вытадней падаць выраз твару. Былі пашыраныя намёткі (убрус, хуста), хустка, каптуровыя ўборы (каптур, чапец, каўпак, берэт), а таксама вянок і інш.

Галаўныя ўборы ў гарадскіх рамеснікаў, мяшчан вызначаліся дастасаванасцю да занятку чалавека, стрыманай афарбоўкай. Беларуская народныя ўборы выраблялі ў хатніх умовах або іх рабілі майстры – шапавалы. Мужчыны насілі розныя віды шапак: суконную або лямцавую белую ці шэрую магерку, аўчынную альбо футравую аблавуху. Вядома і шапка-футраванка з 4-кутным цёмным верхам і мяккім аколышам. Святочныя шапкі ахарошвалі дэкаратыўнай строчкай, каляровымі нашыўкамі шнурка, скуры, тканіны, кутасамі. Шырока выкарыстоўваліся валеныя ці плеценыя брылі (брылёкі), якія насілі найчасцей улетку. З канца XIX ст. пашырыўся картуз, заменены ў XX ст. кепкай. Жаночыя галаўныя ўборы ў XIX – пач. XX стст., найперш святочныя і абрадавыя, адрозніваліся багаццем форм, майстэрствам выканання і спосабам нашэння. Дзяўчаты зачэсвалі валасы на прамы прабор (радзей гладка), запляталі ў косы з каснікамі (рознах колераў стужкі, паскі тканіны, нізкі бісеру). Дзявочыя ўборы ахоплівалі галаву ў выглядзе абручыка ці перавязкі-ручніка і падзяляліся на вянок, скіндачку, кубак, хустку; часамі яны былі састаўной часткай ва ўборы замужніх жанчын. Асаблівa вызначаліся маляўнічасцю, тонкім густам афармлення вясельныя, купальскія ўборы, дзе да іх дадаваліся кветкі, галінкі, зеляніна, стужкі, пер'е, рознакаляровая папера. Усё гэта падкрэслівала свежасць і характво маладосці. Замужняя жанчыны не маглі паказвацца на людзях з непакрытай галавой, і іх уборы былі больш разнастайныя, але сціплейшыя. Іхняя задача была падкрэсліць жаночую статнасць, самавітасць. Жаночая галаўныя ўборы падзяляліся на ручніковыя (намітка, хустка), рагацістыя (галовачка, рожкі), каптуровыя (каптур, чапец, наколка), падвічкавыя. На белае поле палатна наносіўся чырвоны ці чырвона-чорны арнамент. У мастацкім афармленні пераважалі вышыўка, узорыстае ткацтва, аплікацыя парчовай тасьмой, крамнымі тканінамі. У галаўных уборах пажылых жанчын улічваліся пластыка формы, спосаб завязвання. Шыкоўна выглядалі ўборы свацціў, якім дазвалялася выкарыстоўваць элементы дзявочых убораў.

У кан. XIX – пач. XX стст. у вёску таксама ўсё шырэй і больш пачалі пранікаць стандартныя фабрычныя вырабы. Яны пачалі выцясняць мясцовыя традыцыйныя, якія ў асноўным засталіся толькі ў сцэнічных касцюмах. У сучасны момант галаўныя ўборы шырока завозяцца і з-за мяжы, разлічаныя на ўзрост тых, хто іх будзе насіць, і на сезонны перыяд. У многіх выпадках нацыянальныя рысы ў іх цяжка адрозніць.



*Жанчыны ў каптуры (Маладзечанскі раён); галовачцы (Давыд-Гарадок); хустцы (Рагачоўскі раён); намітцы (Лепельскі раён)*



*Мужчыны ў саламяным брылі (Лепельскі раён); магерцы (Шклоўскі раён); шапцы-футранцы; зімовай шапцы (Міншчына)*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі:
грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас:
220029, г. Мінск,
вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26,
334 61 62.
Тэл./факс 334-42-03
E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары дапісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 24.05.2007.
Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14).
Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 613.
Тыраж 1400 асобнікаў.